тамъ (АСД, II, 12, 1537); сталых вар пива люди выпили за рубль грошей (АВК, XXXVI, 119, 1582).

2. *Тое, што і варъ у 4 знач.* воеводѣ нашему отъ варъ имати гостинца по полукопы грошей со всякой вары (АВК, XIII, 69, 1593).

3. *Пошліна на варку піва.* даютъ двѣ кади меду по шести пудовъ, а хмелю двѣ бочки, а грошовоѣ дани десять рубли безъ чотырехъ грошей, а вары на нихъ грошей двадцать; Медковичи... грошовоѣ дани даютъ девяноста грошей, и вары двадцать грошей (АЗР, I, 103, 1483).

4. *Варыва, вараная рэдкая страва.* всажон зас еремиѧ до ωног вѧзенѧ, и ѿложоно емȣ барзо малыˢ ωброчок живности на кождыˢ ден без вары (Бельск., 193б); Налили теды мȣжем абы ѣли. а коли скоштовали вари закричали мовечи: смерть вˢ горнцȣ мȣжȣ б҃жій, и не могли ѣсти (Хран. 323б).

**Варагъ** *наз. Вараг.* наша рус з тых в тоˢ час варагов або вандалов, з народȣ своег словенског кн҃жата собѣ выбирали (Стрыйк., 437б); сам собравши болшое войско з Рȣси и злȣчивши з варагами, братȣ ѧрополкȣ войнȣ ωповѣдил (Там жа, 445). *Парайн.* варяжинъ.

**Варажский, варазский, варяжский** *прым. ад* варагъ. кгды ѿтамтолѧ през варазскȣю землю зашол кȣ своеˢ братии апостолом до римȣ, повѣдил им ѿтамтыи новины (Стрыйк., 436); псковѧне балтииское море варажским зовут (Там жа, 437б); Капітωнъ сирѣчъ кнѧзˢ варѧжским ѧзыком (Бяр., 285).

**Варварский** *прым. ад* варваръ. ωт Египтоу и домоу ѧкововa з людеи варварских была июдеѧ (Пс. XVI, 115); много ишли моремъ, ажˢ на великȣю варварскȣю странȣ (Алекс. 1697, 19б).

**Варваръ** *наз.* 1. *Прадстаўнік народа, які не меў дачынення да грэка-рымскай цывілізацыі.* собравшесѧ множество нечестивых варъваръ на реку данувимъ. Хотѧщимъ переплыти (Чэцця, 199); изаж з листȣ не розȣмѣете, иж тыи варвары страшат даючи снат на себе великою пыхою (Бельск., 172); А в том пришол празникъ еллином и варваром и ȣчинилосѧ промеж ними примире (Тр. гіст., 70б); всѣ прійдѣте, где нѣмашъ нѣ Кгрека, нѣ Жида, не Варвара, нѣ Скифа, нѣ неволника нѣ волного (Каліст, I, 81б); ни варвар ни скифъ, ни еллин ни жидовин (Пралог, 506).

2. *Іншаверац, не хрысціянін.* великиі кн҃зь Дмитриі ... пошол перше в церковь соборную пресвятой Бц҃ы и ... молился, и даль побѣду на варваров, востающих на хр҃стиянь (Мам., 175); архиерея Хр҃ста Сп҃са умолил, жебы его овца невредныи сохранил и отогнал и погубиль волковь безбожных варваровь хотячихь овца его поглотити (Там жа).



**Варволевый** *гл.* ворволевый

**Варга, варкга** *наз. Губа.* нашолемъ пред келіею его нѣѧкого зˢ мѣстечка Презвvтера, которого голова такъ была хоробою называемою Канцеръ, зˢѣдена, ижъ самыи варги его потылицею могли быти видѣны (Мак., 17); Была теды статȣра его досыть оуломна и незвычайна, волосы толко на варˢгахъ маючи, и троха штось мхȣ на вышней части поличковъ (Там жа, 18б); голȣбица ... своима слово бозское варкгами ѧкобы насличнѣˢшȣю ωливнȣю розкгȣ то ест бозское милосердие вносит (Зб. 259, 653); ȣста, оустна: Гȣба, варги (Бяр., 182).

**Варгати** *дзеясл. Ганіць.* Лечъ ȣжо ȣмеръ а ѧко ȣста тые которые на светыи соборъ варгали, и зъ ѧкою соромотою при часе сконаньѧ своего живота кончыли, тые выдають которые се наȣчили правды мовить (Бер. саб., 46—46б).

**Варейный** *прым. Прызначаны для варкі.* взѧлъ в мене мекиньница стрȣгъ моˢ власъныˢ з бечовою а котелъ вареˢны (КВЗС, 126, 1539); ωнъ взѧлъ в него стрȣгъ его власныˢ з бочевою а котелъ вареˢныˢ (Там жа, 126б).

**Варение** *гл.* варенье

**Вареный, вароный** *дзеепрым.* 1. *Вараны.* да дроугии балсам вареныи (Валх., 59); чˢто имать варено быти то днесь сварите (Скар. ІК, 32); тако же и ѧица вареныи в воде (Арыст., 232); его в котлѣ ωлею вароно, и давано ему трȣтизны (Зб. 259, 566).

2. *У знач прым. Вараны.* прынесла имъ ести двѣ птицы, ωдну печоную, а другую вароную, вина а хлѣбец (Трыст., 120); потравы их солодко чинѧт а посполите холодное едѧт вино вароное гȣстое едѧт пȣкрованое (Наб. тур., 24); богатшии гȣмна свои ѿварили, и варенȣю пшеницȣ всѣм, которые не мѣли што ести роздавали (Бельск., 279); недȣжим по ȣлицах и дорогах вареныи потравы посилал (Пралог, 512б); В томъ вареномъ меду остается пожытку золот. трынадцать и осм. деветнадцать (ИЮМ, VII, 35, 1690).

3. *Выраблены, выдублены (аб скуры).* со двема тысѧчми рыцерев кторыж мели горнаши и тарчи кторых материѧ не была з древа оуделана але толко з ременѧ вареного (Троя, 13б).

**Варенье, варение** *наз.* 1. *Дзеянне па дзеясл.* варити. останъки же дела того поживаеть къ варению потравъ (Скар. ПБ, 20); паневъ велька... для варенья рыбъ (АВК, XIV, 358, 1590); огонь на потребу людскȣю естъ створеный и ихъ владзы подлегаеть, и ωт нихъ до вшелѧкого мѧса, частю варенˢѧ, частˢю печенѧ, и тежъ до спаленѧ мертвыхъ тѣлъ (Варл., 239б—240); коли збирали зеле з небаченѧ ѧгод вˢ которых трȣтизна ростет вˢ кгарнец до варенѧ наклали (Зб. 752, 356); такъ тежъ трафилосѧ же не было дровъ до варенѧ (Пралог, 643); купили харчы мяса до варенья и печенья за золотый и асмак. три

(ИЮМ, I, 18, 1679); Бровары и котлы до сыченья мѣдовъ, до варенья пива и паленья горѣлки (АВК, XIII, 43, 1580); купили солоду для вареня пива (ИЮМ, IV, 30, 1686); Реестръ вареня пи́вовъ и купованя солодовъ (ИЮМ, VIII, 22, 1691); котловъ до варенья мѣденыхъ два, триногъ одинъ (АВК, VIII, 465, 1593); Купили... менса шроты два до печеня, а два до вареня (ИЮМ, XIII, 158 1699); Чотыри шроты менса до вареня дали (Там жа, XIV, 17, 1700);

**2.** *Тое, што і* вариво *ў* 1 *знач.* ав$^{в}$вакумъ... сваривъ варение и накладе хлебовъ во плетенникъ (Скар. ДП, 39б); ефросе*н* ... длѧ варе*н*ѧ ѧринȣ збиралъ самъ з лѣса на плечу дрова носилъ (Зб. 82, 432).

**Варивный, варывный** *прым. Прызначаны для захоўвання агародніны.* взяли дей ... посудѡвъ домовых .... бочокъ пивныхъ късвасников, кадей варывныхъ, лагунов (АВК, XXXVI, 43, 1582); кадей варивныхъ всихъ осмь, бочка одна на соленье капусты (АВК, XIV, 356, 1590); кухня великая старая, при ней издебка малая варивная (Там жа, 607, 1597); кухня великая, старая, при ней издебка малая варывная (АСД, I, 206, 1597).


ИСТОРИЧЕСКИЙ СЛОВАРЬ БЕЛОРУССКОГО ЯЗЫКА

ВЫПУСК 2

БИЕЦЪ—ВАРИВНЫЙ

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар А. М. Садоўская. Мастак А. Ф. Корсун. Мастацкі рэдактар В. Ф. Грынкевіч. Тэхнічны рэдактар Т. В. Леценн. Карэктар Т. К. Чабан.

ІБ № 1172

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 02.09 81. Падпісана ў друк 08.12.82. АТ 14765. Фармат 60×90¹/₁₆. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 20,0. Ум. фарб.-адб. 20,0. Ул.-выд. арк. 20,5. Тыраж 2110 экз. Заказ № 1728. Цана 1 р. 50 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.